Poczta opłacona ryczałtem.

Адзін № каштуе 35 гр.

№ 3. | 4 | Серада 18 лютага 1925 г. Год II.

# Авадзень

Дватыднёвік сатыры, жартаў і сьмеху.



—Што гэта. Скрыжынскі... скрынкі...

—Зусім слушна: як цяпер міністр Скржыньскі, дык у Гданску вісяць скрынкі, а як будзе Недзялкоўскі Ежы, дык прылуча да Мацежы.




ВУЧАНЬ. –На што дзядзьку гэтулькі гарэлкі!

СЯЛЯНІН. –Маю гасьцей,дык трэба-ж пацешыць іх...

ВУЧАНЬ. –Вы ім толькі здароўе адыміце гэтым;цешыць і сьмяшыць можна толькі „АВАДНЁМ".

СЯЛЯНІН. –Гэта дзіва!Дзяды нашы і прадзяды ня чулі ніякага „АВАДНЯ" ніколі...Апрыч гарэлкі нічога іншага...

ВУЧАНЬ. –„Авадзень" нідаўна пачаў выхадзіць у Вільні...

СЯЛЯНІН. –А...Ага...Дзякуй за добрую раду...калі так,дык сягоньня-ж я г о выпішу.

:::::

–Добры дзень,кума!
–На рынку была!
–што ты глухая,кума?
–Не,замест рыбы,купіла парася!
–Бывай здарова,кума!
–Пяць злотых заплаціла!
–Мне зусім не цікава,колькі заплаціла.
–Не,кумок,я не уцякала,а заплаціла ды панясла...

Бізунчык.

## С Т А Р А Ў С Я.

Прышоў сынок на сьвята з школы
Здароў як нада быць,вясёлы;
А роднай матцэ усе здаецца
Што сыну цяжэнька жывецца.
–Нуяк,Антонька мой,ты жыў?
Мазгі зусім недзе забіў!
–Ат,мама.лепей бы маўчала
Чым глупства гэткае казала:
Мазгі забіў.Усёж гукае...
Каленькам,-вось каму хапае!

П....а.




..Дзе прызнаюць мае кваліфікацыі,ці тут у Вільні,ці там у Кракаві,ды што з гэтага усяго будзе?

Я.Мал.

ЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯЯ

## У ВОЛАСЬЦІ.

-Э-гэ!У цябе у паспарце ах чатыры гады дабаўлена!

-Нічога дзіўнага...Мяне вайна гэтак састарыла,што нат,я на болей пастарэу!

Б-о.

---

## ПАМІЖ ПІЛІГРЫМАЎ.

СТАРЫ.-У Кіева-Пячэрскай Лаўры манахі,каб спасьціся,замуроўвалі сябе жыўём на цэлыя гады.

МАЛАДЫ.-Гм...Зусім не пахвальна...А як-жа яны спраўлялі свае натуральныя патрэбы?

Б-о.

---

Нашы дзеці...

Рана ўстаўшы: -Дзядуля!чаму,дзядуля,не паміраеш?

ДЗЯДУЛЯ.-Вам нашто мая сьмерць?

Дзеткі.-А бо дзядуля казаў,што як памрэш,дык нам люлька астанецца.

Акыш.

## ХТО ЁН.

Ішоў адзін мніх праз лагі. Убачыў яго пастушок ды наўцёкі. Той дай звацць яго лагодна,каб не цалохаўся.Пастушок вярнуўся і здалеку спытаў :

-Хто ты?

Мніх адказаў:-Ня бойся!Хадзі бліжэй:я з Закону.

-А што гэта закон?-пытаў недаверчыва пастушок.

-Гэта такая сьвятая сямейка,-тлумачыў хлапцу мніх.

-А,цяпер я ведаю,хто ты!-ускрыкнуў хлапец:-Пэўна ты Пан Езус!

-Не,-ухмыльнуўся законьнік...

-То пэўна Матка Боска?-спытаў той.

-Дзе-ж там,не!

-То пэўна сьвяты Ёзэф?-дагадваўся малы шалуцька.

-І то не!-запярэчыў мніх.

-Ну то ўжо ведаю!-з радасьцю закрычаў пастушок:

-Пэўна ты вол,або асёл!

Акыш.

---

Што лепей...

- ЯНКА, на што ты лепш згадзіўся-б;ці жанатым сто гадоў жыць,ці нежанатым 50?

-А чаму гэта так пытаесься?

-Ну скажы!..

-Па майму лепей жыць кавалерам толькі 50 гадоў,чым жанатым сто у грызьні ды неспакоі...

Новы.

---

## НЯ СЬЦЯМІЎ.

Падчас пройшлай вайны,калі польскае войска адхадзіло з пад Дзісны,забег у вёсцы да селяніна польскі жаўнер ды пытае:

-Гдзе вуз паньскі?

-А во-во,паночку!-узяўся той за свой вус паказуючы...

-Не о то ходзі...Гдзе вуз для язды?

-А ужо тры дні, як узялі з канём пад хурманку!

П....ка.




Солтыс выйшоў з гміны з новымі падаткамі...

## НІ ЗРАЗУМЕЛА.

Такі праўда,што з старымі
Усяго бывае:
Прыйшла з царквы раз бабуля
Плача,як малая.
Што?чаго вы?Хто вас скрыўдзіў?
Сталі усе пытацца,
Але,бедная,ад жалю
Ня можа стрымацца.
Ды ні жартам,а запраўды:
Аж сыплюцца сьлезы,
Як-бы шышачкі вясною
З вярбы,ці з бярозы.
Так расплакалась,ня можа
Аніяк стрымацца
Штаб толькі успакоіць
Сталі ўсе старацца.
Навакола,як-бы дзіва,
Яе абступілі
Гэты тое,той-другое
Усе гаварылі.
Розны дзівы і здарэньні
Сталі талкаваці
Абы толькі,каб як кольвек
Гутарку пачаці.
Вось,нарэшце,ледзь-ня-ледзь
І прагаварыла:
-Ой,паверце,мае дзеткі,
мне нішто ня міла!
-Ну чаму ды што такое,-
Хоць слоўца-б сказала
Але неяк,гэтым разам,
Гутарку пачалі:
Перш сьлязу з носу,як бобу,
Хвартухом згарнула,
Галаву чуць прыпадняўшы
Цяжка уздыхнула.
Пачала казаць,нарэшце.
А усе сталі слухаць
Так уважна,што пальцамі
Ні пасьмелі рухаць.
-Вы ня чулі тут,напэўна,
Сядзелі у хаце,
Што сягоньня поп у царкві
Пачаў нам казаці:
-Будзе,-кажа-на тым сьвеці
Надта кепска з намі:
Плач і енк ды ўсе такое
І скрыгот зубамі.
-Ну дык што,чаго тут плакаць?,
Сталі усе пытаці.
-Але,чаго!чым жак я там
Буду скрыгатаці.
Маладым вам то нічога:
Зубоў поўна губа,
А чым я там буду скрыгаць--
Ніводнага зуба.
..............

С.Крапіва.




РАЗСЫЛЬНЫ П.ІНСПЕКТАРА:--Чалавеча,што нясеш у мяшку?
Беларус:--Прыгаворы і дэклярацыі,што напісалі сяляне,каб адкрыць беларускую школу у вёсцы .
Разсыльны:--Я так сама нясу прыгаворы,але да крамы на паперу,..П.Інспектар казаў прадаць,бо у канцэлярыі німа ужо мейсца.

Я.Маланка.

---

МІХАЛКА.

-Міхалка,адчыні!,-крычаў хурман князя Х.,стукаючы у вакно пастуха-знахара.

А што?-пачуўся голас.

-Зьбірайся да пана у палац!

Міхалка меў г.40...Цікавіўся ён адмалку зёлкамі і на ваколіцу лічыўся знахарам.

Паціху злез з печы,адчыніў дзьверы...

-Добры вечар,Міхалка!Збірайся-пан просіць!

Вечар добры!-Проша сесьці...А на што там я патрэбны?

-Паненка хварэе,уся скура у пузырах...Ціх ня чуў,Міхалка, аб гэтым?

-Не памагла заграніца і дахтары...,казаў Міхалка апранаючыся,-а па майму,нічога страшнога німа.

-Восьь пан даведаўся аб табе і просіць.

-Ну,дык пойдзем,паночку.

-А зачым кацялок бярэш?

-Трэба...

Яны выйшлі.Дажджок накрапаваў-

Была пара летняя...Селі да,адумысна прысланай,панскай каламашкі ды паехалі.

.....................

У пакоях спаткаў Міхалку сам князь Х.,які адвёў яго да хворае дзяўчыны.Тая ляжала нерухома на ложку і стагнала.

Міхалка загадаў устаць ей ды паказаць цела.Стыдліва,пры дапамоге самога бацькі-князя,паказалася...Уся скура на ейным целе была у пузырох.

-Гэта нічога,-казаў Міхалка,-дзяўчына папpавіцца.

Ззаду за ім пачуўся сьмех: бонна-Француска,паненка гадоў 30 хахатала з Міхалкавае мужыкаватасьці-гэтак князеўну назваў дзяўчынай!

Міхалка папрасіў усіх выйсьці,сам адвярцеў кацялок з трапкі,наліў вады і паставіў гатавацца на сьпіртоўцы...Паненка страхавіта на яго пазірала. Як загатавалася вада ён,шапчучы малітвы,падсыпаў зёлак.

...Сьвежа-згатаваным лякарствам Міхалка нацёр усё балючае -

цела князеўны,пасьля, у суседнім пакоі,лег адпачыць.

.....................

Праз тыдзень князеўна магла хадзіць ужо да сталовай і разам з усімі спажываць страву.

За сталом пры ей садзілі Міхалку,як цэннага і надта паважанага знахара,з другога боку князеўны сядзела Француэка-бонна,што вучыла паненку абычайнасьці ды гаворкі французкай,далей -сядзелі князь з жонкай.

Міхалка,маючы добры апэтыт да яды,ня глядзеў ні на кога,сам браў мяса з талеркі рукамі ды ахвотна абгрызаў косьці...

Цярпеў князь,бо цаніў Міхалку дзеля дачкі.Проста у вочы сьмялася з Міхалкі Француэка.

Ён затаіў зло да яе, а на вастроты ейныя не адказаў...

.....................

Кожным вечарам рабіў нацераньне Міхалка.Праз два тыдні ён казаў князю,што дачка таго можа выйсьці пагуляць на сьвежае паветра. Дзень гэты быў днём радасьці усей сямыкКнязя і вось, неўзабаве,наўперадзі,па дарожцы у садзе ,ішоў мерным крокам сам князь з жонкай ,-за ім дачка з Міхалкам з аднаго боку і Французкай-з другога.Ззаду ішоу лакей з кашолкай поўнай усякіх прысмакаў,цукеркаў ды ядоміны.

Пагода была найлепшая.Сонца сьвяціла мерна...Ветрык памагаў гуляючым,дуючы ім ззаду ды шмыгау па траве і дрэвах,шастаючы лісьцямі ды клонючы кветкі да зямлі.

Праходзючы ля аднэй загранічнай расьліны Французка,каб дапячы Міхалку,запыталася у яго:

-Як завецца гэта кветка,вы ня ведаеце?

Міхалку ужо даўно апрыкрылася яна сваей фальшывасьцю--шукаў спосабу адплаты.

-Ня ведаю,ды яна,наагул,не карысная чалавеку.

-Німа вам што казаць: ня ведаеце вы нічога.Вмюж ніякае батанікі ня учылі...

-Гм...А вы,паненка,вучылі,а ці ведаеце які смак гэтае лісьцінкі?,-запытаўся Міхалка,зрываючы лісток нейкі,паміж травы,ды падносючы ке Французцы. Тая насьмешліва гледзючы,узяла на зубы лісьцінку ды пачала смакаваць.

-Штож тут такога,-казала, нічога, толькі салодка...

-Паглядзім як табе будзе салодка.",-прабурчэў Міхалка.

Колькі мінут прайшло.Усе гуляючые ішлі далей удоўж саду.

Раптам...Французка пачала чырванець,надувацца ды адставаць: лісьцінка Міхалкава рабіла сваё.

-Проша не адставаць,паненачка,-прагаманіла князёўна на Французку гледзючы.

-Не,я не...не магу...,-і адстала. Ішоўшый ззаду лакей думаў,што яна хоча перакусіць,зблізку ды перад ей адчыніў кашолку,-куды там!Замахала рукамі.

Усе прыстанавіліся,абярнуліся ды дзівуюцца,а Французка не мае сіл ісьці...стала...Уся чырвоная ,што раз-больш надуваецца, ня тут казана,як карова,калі абесца ВЕХУ...Князь успалохаўся:

-Міхалка,ратуй...яе...

-Нічога,панок,чорт яе ня схопіць.З мяне усіх гэтых два тыдні падтрунівала ,дык цяпер мы з яе адразу...

Французка страхавіта вачмі пуляла...ды паўнела....Раптам...

...атрымалася нешта,падобнае грымоту...Французка стала , твар засланіўшы рукамі,чырвоная па вушы...

Стыдліва адвярнуўся князь з жонкай і дачка яго з Міхалкам за імі ззаду-лакей.

Разбіраў усіх сьмех...і.. стыд...Я

Як дайшлі да палацу Міхалка стаў развітвацца:

-Ну,панок,Я ужо вашэці не патрэбны...Дзяўчына , дзякуй Богу,мае цела чыстае...Найду дамоў.

-Ах,дзякуй,-вось табе за гэта фальварак. -і князь,цалуючы Міхалку у лоб ,сунуў таму ў рукі вялікую з гэрбамі паперу.

-Ну і дображ ты,Міхалка, прыстыдзіў тую,мудрую,Французку. казаў пацешаны князь,-яе ужо німа...З рэчамі на станцыю адехала...

-Гэта ей навука,паночку!

Яшчэ ня зышоў Міхалка з ганку, як падбегла князёўна,ды ,чуючы вялікую радасьць ад вернутага ей здароўя і маладосьці ,---

пачала цалаваць яго у шчаку.

Дзіву даліся усе,хто быў пры гэтым.Рад быў князь,яго сям'я і ўсе,хто пры іх быў .. Францужанка,тым часам,чакаючы цягніка на станцыі,праклінала сябе за язык , а Міхалку-за цары.

А.В.

::::::::::::::::::::::::::::::::

ДА КАГО ПАДОБНЫ.

Перад люстрам пан часаўся,
Пудрай абсыпаўся...
-Да каго я вось падобны?
Лакея спытаўся.
-Панок,каб хоць не салгаці,-
Той адпаведае,
-Здаецца,асоба Ваша
На льва выглядае!
-Да якога льва раўнуеш
Ты мяне,Іване?
-Да таго,што ў Ерусалім
- Нёс Езуса,-пане!
-Дурак з цябе!то ня леў быў
А асёл,Іване!
-А так,праўда,то асёл быў,
Дык даруйце,пане...

З украінск.А.В.

---

ПРЫ ПЕРАВОЗЕ.

На пораме,каля Міхалішак, было такое здарэньне:бедны чалавек просіць перавозьніка,каб перавёз яго дарма,бо ён ня мае чым заплаціць,усё аддаў на „падачкі", але за перавоз дасьць добрыя чатыры рады дабрадзею...

-А куды едзеш?-пытае перавозьнік чалавека.

-Вакол сьвету,браток,бо цяпер пашла такая мода .

-Ну,дык едзем.-каха Пасувень (так зваўся той перавозьнік)

На другім берагу падарожнік „кругом сьвету"даў такія пекныя рады:

1.-Як зловіш блыху,браток,то пільнуйся,бо уцячэ.

2.-Як выходзіш на двор,не станавіся проці ветру:помні,што беднаму заўсёды вецер у вочы.

3.-А як што каля цябе трэсьне азірніся,ці хто ня відзіць.

4.-Апроч мяне нікога дарма болей неперавазі,бо збанкрутуеш.

Акыш.

..............

НА ВЕЧАРЫНЕ.

-Скажы,братка,чаму гэта уся падлога быццам пяском пасыпана,бо,у часе скокаў,пад нагамі аж трашчыць?

-Вось дзіўны!Паглядзі толькі,хто скача...Скачуць-жа нашы!..

Ш--а.

---

ПРАЦАВІТАЯ ДЗЯЎЧЫНА.

Ой сонейка жалю ня мае,
Праз вакно мне усё дакучае:
Кладзе на мой тварык румяны
Загар ды людзям адкрывае,
Што хата мая ня прыбрана,
што сорам мне спаць,бо ня рана.
Ой шмат бы чаго даканала:
Ледз сьвет рупна-б я уставала,
Каб ў будні іграла мне дутка
І ў сьвята пад скрыпку скакала.
У шоўку я жала бы хутка.
Эх,добра жылося-б мне тутка.
Як ня бъюся-усё большае ліха.
Эх,спачну яшчэ з гора хоць крыху!
Калі стану я Богу пыгодна
Дык ня буду ніколі галодна.

Алёна.

---

АФІЦЭР І САЛДАТ.

Салдат,служучы у войску,нічога ні хацеў рабіць і заўсёды на пытаньні адказваў:ня ведаю.

Раз афіцэр пазваў яго да сябе ды пытае:

-Скажы мне,нікіпар,колькі будзе два ды два?

-Ня ведаю,Вашэсокородзіе!

-Сколькі будзе адзін ды адзін?

-Ня ведаю,Вашэсокородзіе!

-Ну,а калі,напрыклад,ты дурак адзін,а я другі ,колькі нас?

-ХаХа...Ужо ведаю:два дурака,Вашэсокородзіе!

Б-----к.



1. Баранукючы брыдзе
Муж з карчмы да хаты.
Ў хаце жонка жджэць яго
Латаець там латы.
-Жонка,золатца мае,
Хоць адзін разочак
Пашкадуй,ня бі мяне-
Гнуся ў паясочак!
-Ой,за штож я маю біць
Калі любы мне ты.
Ляж,саколік,перасьпі
Хай хмель пройдзе гэты.

-Гэй ты жонка,ведзьма-баба!
Пахмяліцца,есьці!
Толькі крута-водкі,яйцаў
Мне бардзей прынесьці!
-Га,праснуўся,дык і добра:
Лепш цяпер пачуеш
Чапялы смак,як прыўдару,
Дык аж затанцуеш!
Вось за хмель,за валацугства
Параўную косьці,
Ты ня дзяк,я не папоўна
Цацкацца з любосьцяй.

Алёна.

## ЗАГАДКІ.

І. Не лякарства,а здароўя дадае,- ня хлеб,а жыць без яго ня можна,- за ўсё-наймілейшы,а да сьмерці падобны.

2. "Чый гэта голас,што чуюць і глухія?

3. Ні стукаў,ні грукаў,-сам пад вакно падляцеў.

4. Ня відаць,а міла,..Не багацьце,а цешыць.

5. Прыйдзе бяз ног,возьме не палахнуўшы і зарэжа бяз нажа.

6. Дзе ў пацемку можна бачыць усякія абразы?

б..а.

## СЕКРЭТ.

– Будзьце пэўны,паненачка, што нікому не адгукнуся аб толькі-што перажытым шчасьці.

-Я думаю!Калі-б кожны хацеў аб гэтым гукаць,як-бы я тады паказалася на вуліцу...

Восіан.

## Наша ПОЧТА.

Падпіску атрымалі: па 3 зл.- ад Янкі Станкевіча;па 3 зл.60 гр. ад хвер.Кобака,Я.Луцэвіча і Карабейніка;па 2 зл. ад Чэрвінскага Севашкі ,Ліпскага,Дзынгеля,Мацiаса,Севашкі;па І зл. 80 гр. ад Зімніцкага,Лапыроўны,П.Станкевіча,З.Краповіцкай,М.Станкевіча, А.Стэповіча,Андр.Цікоты,Санчука, Я.Якімовіча,Казюковіча,Мазурака, Лагуненка,Білева,Казла,Шнаркевіча,Буйвола,Трынды,Красоўскага, Янюка,Місюнаса,Дэшкоўскага,Пасюкевіча.Гэнэральчыка,Поболя;Із.90 ад Ключановіча;Ізл. прыслаў Я.Пугач;Ізл.50-Тарасэвіч;Ізл.55гр.- А.Кот.

Усім тым,хто прыслаў грошы„Авадзень"пашлецца акуратна.

Адказы на запытаньні дамо у наступным нумары .

Заахвочвайце да падпіскі сяброў!

РАЗГАДКІ:І.Сон,2.Сумленьне,3. Дзень,4.Песьня або музыка,5.Сьмерць,6.У кінематографі.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі-Wilno Завальна 7 пры кнігарні.

ПАДПІСКА:на 3 м.=Ізл.80гр.,на паўгода=3зл.50гр ,на год=7зл. усяго. За граніцу на год-тры даляры.

Рэдактар-Выдавец А.Васілеўскі.

Літ.Маца,вуліца Домброўскага 3,у ВІЛЬНІ.